# на штурм літоўскіх БАСТЫЁНАЎ

**Не зусім звычайныя ваенныя дзеянні прайшлі на прыканцы ліпеня ў літоўскім горадзе Клайпеда. Там адбылася рэканструкцыя падзей паўстання 1831 года, калі на знішчэнне "крамолы" барацьбы за незалежнасць былі кінуты царскія войскі.**



*Праз некалькі хвілін з гэтай пушкай — на штурм*

Па запрашэнню літоўскага боку ў рэканструкцыі ўзялі ўдзел і прадстаўнікі Слонімскага аддзялення ваенна-гістарычнага клуба 4-га Мінскага пяхотнага палка. Полк гэты, дарэчы, адсвяткаваў сёлета 195 гадоў з моманту свайго фарміравання. Прыехаць сланімчанам у Літву дапамагло камандаванне 11 механізаванай брыгады. Праходзіла рэканструкцыя два дні і прыцягнула да сябе каля дваццаці тысяч гледачоў: жыхароў Клайпеды, турыстаў, маракоў з караблёў, што зайшлі на час у порт.

У першы дзень "царскія" войскі па ўсіх правілах ваеннай навукі праводзілі асаду "паўстанцаў" у цэнтральным бастыёне абарончых збудаванняў Клайпеды, а на другі дзень штурмам бралі форт, у якім заселі "мяцежнікі". Усё нагадвала сапраўдныя баявыя дзеянні. У атаку ў поўнай тагачаснай амуніцыі, з баявой старажытнай зброяй ішлі пехацінцы, кавалерысты, егеры, "працавала" асадная артылерыя.

Цудоўна захаваныя і дагледжаныя фарты і бастыёны дапаўнялі ўражанне рэальнасці ўсяго, што адбывалася ў горадзе ў гэтыя два дні. А адбылося сапраўднае свята нашай агульнай гісторыі, свята вайсковага братэрства. І арганізавана рэканструкцыя была, дарэчы, узброенымі сіламі Літвы, але ж самы цёплы прыём аказвалі ўсім удзельнікам і простыя жыхары Клайпеды.

Ці не паспрабаваць пераняць вопыт правядзення такіх мерапрыемстваў і нашым гарадскім уладам? Тым больш, што ў наступным годзе Слонім павінен адсвяткаваць свой 750-гадовы юбілей. Падрыхтаваць свята ў ваенна-гістарычным плане здолелі б удзельнікі клуба 4-га Мінскага пяхотнага палка. Больш за 50 чалавек з клуба маюць на сёння поўную і да дробязей дакладную амуніцыю розных радоў і відаў войскаў таго часу. Ёсць у іх і вопыт удзелу ў розных святочных мерапрыемствах.

Зараз, напрыклад, клуб рыхтуецца да ўдзелу ў рэканструкцыі Барадзінскай бітвы, што адбудзецца на прыканцы жніўня — пачатку верасня. Там жа, на Барадзінскім полі, клуб адсвяткуе і пятыя ўгодкі са дня свайго заснавання. Віншуем і чакаем свята з іх удзелам у старажытным Слоніме. Гісторыя ж і ў нашага горада багатая і не менш славутая за іншыя мясціны Беларусі, Расеі ці Літвы.

**Валерый КАВАЛЕНКА**



*Штурм бастыёна "паўстанцаў"*

ЗДАРЭННЕ

# ПРОКАТИЛСЯ С ВЕТЕРКОМ



**Вчера, 14 августа, в Слониме около шести часов вечера, в районе улиц Тополевой и Ершова произошла автомобильная авария.**

Автомобиль "Ауди-80", за рулем которого находился Сергей Лактюшин, сын мэра города Слонима, столкнулся с "Мерседесом", принадлежащим Владимиру Лохмакову. Как стало известно корреспонденту "ГС", в салоне "Мерседеса" кроме водителя было еще двое пассажиров. Один из них — Ирина Лохмакова. Она была доставлена с черепно-мозговой травмой в районную больницу.

По утверждению свидетелей, "Ауди" выехала на полосу встречного движения. В результате чего и произошло столкновение.

**Валерий КОВАЛЕНКО**



Фота Вольгі ШЫНКЕВІЧ

*На месте аварии*

на жыццёвых скрыжаваннях

# ЦЁТКА АМІЛЯ

Праз таўшчыню гадоў мне свеціць яе ўсмешка. Была цётка Аміля невысокая, худзенькая, ціхая і ласкавая, як майскі вечар. Мая мама шчыра сябравала з ёй, і таму я часта бывала ў іхняй хаце — невялічкай, крыху цемнаватай, але заўсёды чыстай і ўтульнай. Цётка Аміля з ранняй вясны да позняй восені збірала і сушыла нейкія зёлкі, і таму ў хаце заўсёды быў пах мяты, чабору, рамонкаў і іншых раслін. Вяскоўцы, захварэўшы, найперш ішлі да яе, і цётка Аміля давала лекі каму "ад жывата", каму "ад галавы". Пра грошы і гутаркі ніколі не вяла. Радавалася, калі чалавек папраўляўся ад хваробы. Вось і ўся плата.

Жыла яна з сынам. Той ніколькі не быў падобны на маці: высокі, чарнавалосы, з нейкай задзірыстай усмешкай на прыгожым твары. Адна з маіх старэйшых стрыечных сясцёр шчыра кахала яго, але я аднойчы ненаркам падслухала дарослых дзяўчат, што справа яе безнадзейная, бо ў гэтага Вані ў кожнай вёсцы дзеўка ёсць.

Ажаніўся ён ужо ў гадах, хоць маці даўно чакала памочніцу ў хату. Цяжка было адной і дома ўпраўляцца, і дзяўкі калгасныя апрацоўваць. На здзіўленне ўсім, дзеўку ўзяў "не роўню", як аднагалосна прызналі ў вёсцы. Была яна высокая, нейкая плоская, з непрыгожым тварам, густа пакляваным вяснушкамі. І толькі калі ўсміхалася, на шчоках з'яўляліся прывабныя ямачкі.

— Казалі, надта працавітая і добрая, — паведаміла аднойчы наша суседка. — Калі так, то будуць жыць. Ваня любіць, каб яму падпарадкоўваліся.

— Ужывуцца, — пацвердзіла і мая мама. — У Амілінай хаце любая ўжывецца.

Пакаціліся гадочкі, а дабра ў Амілінай сям'і не было. Неяк летняй нядзелькай, разаслаўшы посцілку пад старой яблыняй і грэючыся на сонцы, цётка Аміля скардзілася маёй маме:

— Не ведаю, мая ты Ганначка, як і жыць. П'е Ваня. А нявестачка пакутуе, толькі нікому не скардзіцца. Але ж я ўсё бачу... Хоць бы дзетак ім Бог паслаў, а то каторая пара іх няма.

Мама, спачуваючы, маўчала і таксама змахвала з вачэй слёзы. Шкада было сціплую і добрую Аміліну нявестку.

Але засвяціла сонейка і ў іхняе акенца: зацяжарыла маладзіца. І гэта ж трэба: амаль перад самымі родамі здарылася няшчасце. У нашай вёсцы малацілі жыта. Малатарня гула на ўсю ваколіцу, надаючы восеньскай прыродзе яшчэ большы сум і нудоту. Да абеду ля малатарні разам з іншымі вяскоўцамі працавала Аміля. Ды нешта не замагла.

— Я падмяню цябе, мама, — прапанавала нявестка, калі тая прыйшла дадому. — Пасля абеду не ідзі.

Цётка Аміля не згаджалася, але Кацярына настаяла на сваім. Цяпер у дэкрэтным водпуску была б жанчына, а тады, пасля вайны, які там дэкрэт. Так і пайшла на работу. А пад вечар амаль непрытомную завезлі ў бальніцу.

— Выкідыш у Кацярыны, — шаптала бабуля маме, каб не чулі мы, малыя. — Двое дзетак было. Два хлопчыкі. І абодва — нежывыя. Аміля ледзь сама не памерла ад гора.

Мама заплакала, а ў маім сэрцы пасяліўся такі шчымлівы боль да Амілінай нявесткі, да нежывых маленькіх істот, што не хацелася глядзець на белы свет.

Але Бог не без міласці, а чалавек не без шчасця. Аміліна нявестка нарадзіла адно за адным траіх дзетак: хлопчыка і дзве дзяўчынкі. Хоць і цяжка было гадаваць, але гэтулькі шчасця прынеслі яны ў сям'ю! Ваня стаў менш піць, неяк па-жаночаму расквітнела нявестка, памажнела, папрыгажэла.



Малюнак Эўгена ІВАНОВА

А потым прыйшло гора ў нашу сям'ю: на адным тыдні памерлі бабуля і мама. Мяне аддалі ў школу-інтэрнат, і я не бачыла цётку Амілю, але ў лістах да таты заўсёды пыталася пра яе, бо з ёй была звязана нейкая асаблівая дарагая палоска майго жыцця. І ён пісаў, што ў цёткі падраслі ўжо ўнукі, а самой ёй вельмі няможацца: хваробы гнуць да зямлі. А так у іхняй сям'і лад і спакой. І пазней, на які дзень прыязджаючы дадому, сустракацца з ёй мне не даводзілася, бо старэнькая Аміля ўсё ляжала ў бальніцы — то ў раённай, то ў абласной.

І вось аднойчы, ідучы з паўстанка, сустрэла на вуліцы сваю цётку. Расказваючы пра вясковыя навіны, яна раптам успомніла:

— Аміля ж памерла. Ты можа і не чула. На мінулым тыдні хавалі. Але ж і плакала Каця. Можа ў небе чувась было. Уся вёска дзівілася, так нявестка па свекрыві гаравала. У яе ж свая маці яшчэ жывая, а маладзіца за Аміляй проста ў зямлю падала і ўсё крычала:

— Не ўгаворвайце мяне, людзі, не суцяшайце. Я сёння шчасце сваё хаваю, сваю заступніцу, самага роднага чалавека...

Цётку Амілю пахавалі непадалёку ад маёй мамы. І калі ты ні прыедзь на могілкі: ці ранняй вясной, ці глухой восенню — застанеш там узорны парадак. Казаць не трэба, хто яго падтрымлівае.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

Газета Слонімская
16 — 22 жніўня 2001г. №33 (219)



# СТРАЦІЛІ ДВА АЧКІ. Добра, што толькі два

**"Дынама-Юні" (Мінск) — Камунальнік (Слонім), 1-1**

Фота Вольгі ШЫНКЕВІЧ

Мінск. 11 жніўня. 150 гледачоў.
Суддзя: Юрый Майстраў (Фаніпаль).
Камунальнік: Гайдзецкі, Савань, Майсейчык, Чэпкі, Кірыленка, Варанцоў (58, Шэпятоўскі), Верэшня (46, А.Дзегіль), Цішчанка, Астапчык, Вярбіцкі, Місюк (72, Аначэнка).
Галы: 55, Гукайла (Дынама-Юні); 84, Вярбіцкі (Камунальнік).

Трэнерскі штаб слонімскай каманды працягвае выпрабоўваць у асноўным складзе новых, маладых футбалістаў. Таму і гуляць "Камунальніку" прыходзіцца бадай што эксперыментальным складам. Што з гэтага атрымліваецца, бачна па выніках апошніх матчаў.

У мінулую суботу слонімцы сустракаліся з мінскім "Дынама-Юні". Пачатак гульні застаўся за гаспадарамі поля. Яны больш атакавалі, лепш працавалі з мячом на знаёмым газоне, дарэчы, амаль ідэальным. Але па ходу матчу "Камунальнік" здолеў перабудавацца, падладзіцца да гульні дынамаўцаў. Нашы ігракі пачалі сустракаць саперніка на яго палове поля, і, як вынік, пачала атрымлівацца гульня ў атацы слонімцаў.

Ды толькі ніяк не наладзіцца ў "Камунальніка" абарона. Вось і ў гэтым матчы адна памылка ў абарончых парадках каштавала гасцям перамогі і двух ачкоў. Яўген Савань прапусціў востры выпад нападаючага гаспадароў, а Сяргей Чэпкі не паспеў падстрахаваць партнёра. Выхад на перахоп Валянціна Гайдзецкага не збянтэжыў мінчаніна, і ён спакойна перакінуў мяч праз нашага варатара ў вароты. 1:0 на карысць "Дынама-Юні".

Але лік на табло стадыёна не адлюстроўваў становішча на полі. Каб здолелі забіць Алег Вярбіцкі, Дзмітрый Аначэнка ці Андрэй Місюк, якія ўмудрыўся прамазаць з 5-ці метраў, было б больш справядліва.

Другі тайм акрэсліў поўную перавагу "Камунальніка". Толькі ўдача ніяк не хацела паварочвацца да сланімчан тварам. Мяч ніяк не жадаў ісці ў вароты гаспадароў. То штанга, то перакладзіна, то варатар мінчан паўставалі на шляху мяча пасля ўдараў нашых футбалістаў. А дынамаўцам прыйшлося дайграваць рэшткі другога тайма ў меньшасці. За брудную гульню супраць Алега Вярбіцкага, які выходзіў сам на сам з варатаром гаспадароў, быў выдалены абаронца мінчан. Але ж рэалізаваць колькасную перавагу слонімцы здолелі толькі на 84-й хвіліне. Зрабіў гэта ўсё той жа Алег Вярбіцкі, бясспрэчны лідэр "Камунальніка". Ды толькі на большае гасцям шчасцейка не хапіла. У выніку – толькі нічыя ў матчы, які слонімцы павінны былі выйграваць.

Чарговы тур чэмпіянату "Камунальнік" прапускае. А наступны матч слонімцы правядуць 25 жніўня зноў-такі ў Мінску супраць аднаго з лідэраў, "Зоркі-ВА-БДУ".

**Валерый КАВАЛЕНКА**

## Вынікі астатніх матчаў 18-ГА ТУРА:

| | |
|---|---|
| Свіслач — Хімік, | 2-4 |
| Ліда — Тарпеда-Кадзіна, | 1-1 |
| ЗЛіН — Граніт, | 1-3 |
| Зорка-ВА-БДУ — Дарыда, | 2-1 |
| Керамік — Нёман, | 4-1 |
| Тарпеда — Рагачоў-ДЮСШ-1, | 2-1 |

## КРЫХУ СТАТЫСТЫКІ

Самы час падвесці некаторыя папярэднія вынікі выступлення "Камунальніка" у першай лізе з пункту гледжання пастаўленых на сезон задач.

Па-першае, значна абнавіўся склад каманды. У 17-ці гульнях на поле выходзілі 24 футбалісты. З іх толькі 10 — з мінулагодняга складу "Камунальніка". Сплаў вопыта і маладосці пакуль не дае значных вынікаў, не ўсё ладзіцца ў абароне, а ў атацы заметны толькі Вярбіцкі (7 галоў). 4 мячы на рахунку Варанцова, па два — у Аначэнкі і Мажэйкі, па аднаму — у Місюка і Капельяна.

Не знайшлося з прыходам пасля першага круга пяцёх новых ігракоў месца ў камандзе Аляксею Балю і Мікалаю Мажэйку.

Па-другое, стабілізавалася фінансавае становішча. Амаль няма даўгоў па зарплаце, праблему харчавання вырашае слонімскі мясакамбінат. А для адпачынку футбалістаў абарудавана спецыялізаванае кафэ з відэасалонам.

Валерый КАВАЛЕНКА

# Прайгралі. Каменціраваць НЯМА ЧАГО

**"Керамік" (Бяроза) — "Нёман" (Масты), 4-1**

Бяроза. 12 жніўня. 1500 гледачоў.
Суддзя: Н.Пырэеў (Мінск).
Галы: 4, 48, Швед; 34, Зубач; 55, Бандарук; 31, Кухлей (3 пенальці).

У чарговым туры футбольнага чэмпіянату мастоўскі "Нёман" гуляў на выездзе з бярозаўскім "Керамікам" і ў чарговы раз прайграў.

Прычым прайграў з буйным лікам, хаця па ходу сустрэчы некаторы час трымалася даволі роўная гульня, і нават лік быў нічыйны — 1:1. Ды толькі спыніць серыю сваіх няўдалых выступленняў мастаўчанам не ўдалося. Наступныя тры галы цалкам пахавалі надзеі гасцей на спрыяльны вынік матчу і, увогуле, на належную гульню "Нёмана" у 11-м чэмпіянаце Беларусі.

У камандзе востра адчуваецца адсутнасць яе лідэра Аляксандра Вярбіцкага, які атрымаў траўму і ўжо доўгі час не выходзіць на поле. Свае няўдачы футбалісты ўспрымаюць балюча. Некаторыя з іх, увогуле, адмовіліся каменціраваць апошнюю сустрэчу.

Ды што каменціраваць, калі гульні няма. І, як след, – перадапошняе месца ў турнірнай табліцы, і ... бліскучыя шансы на вылет у ніжэйшую лігу.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**



# ГУЛЬНЯ – ДРЭННАЯ, пройгрыш – мінімальны

**Камунальнік-2 (Слонім) — Хімік (Гродна), 1-2**



Фота Вольгі ШЫНКЕВІЧ

*Разышліся шляхі былых аднаклубнікаў Мікалая Мажэйкі (злева) і Сяргея Скляра (справа)*

Слонім. 12 жніўня. Стадыён "Дынама". 300 гледачоў.
Суддзя: Ф.Ляцяга (Гродна)
Камунальнік-2: Берг, Савань, Скляр (Дэйка), Боцік, Аначэнка, Горбач (Зубко), Снапко (Куцко), Грыб, Грынюк, Цішчанка, Сямёнаў (Кузьміч).
Галы: 9, Шыдлоўскі; 30, Няпрэвіч (Хімік); 33, Грыб (Камунальнік-2)
Папярэджанні: 15, Андрушэвіч; 25, Савіцкі (Хімік), 75, Куцко (Камунальнік-2).

Згуляць на роўных з лідэрам абласнога чэмпіянату слонімскім футбалістам не ўдалося, нягледзячы на жаданне перамагчы ў родных сценах. Не дапамагло і "ўліццё" вопытных ігракоў з асноўнага саставу "старэйшага" "Камунальніка", хаця яны і выдзяляліся сваёй гульнёй на полі.

Прапусціўшы хуткі гол у свае вароты ў першыя дзесяць хвілін матчу, слонімцы паспрабавалі абвастрыць свае дзеянні на палове поля гасцей, але нічога больш-меньш асэнсаванага ў іх не атрымалася.

Затое гродзенцы падвоілі лік і ўжо маглі адчуваць сябе спакойна, маючы запас у два галы. А "Камунальнік-2" не збіраўся так лёгка аддаваць перамогу на сваім полі, перад сваімі балельшчыкамі. За дзесяць хвілін да заканчэння першай паловы гульні слонімцы трапна разыгралі вуглавы, і наш нападаючы Грыб галавой укалаціў мяч у сетку варотаў "Хіміка", скараціўшы разрыў у ліку.

У апошнія хвіліны першага тайма мог яшчэ вызначыцца Дзмітрый Снапко, але ўпусціў добры момант. З тым каманды і разышліся на перапынак.

Другі тайм выдаўся багатым на галявыя моманты ў абедзьвюх каманд, але безвыніковым на забітыя галы. Спачатку гродзенцы двойчы не здолелі забіць гаспадарам са зручных пазіцый. А потым ужо Аляксей Цішчанка тройчы расчаравана хапаўся за галаву пасля сваіх няўдалых спроб дакладна прабіць па варотах "Хіміка".

Адзначыць у нашай камандзе трэба Аляксандра Боціка, Сяргея Берга ды Дзмітрыя Зубко, які выйшаў у другім тайме на замену і згуляў практычна беспамылкова.

У асноўным жа гульня праходзіла мітусліва, без асаблівай абдуманасці і камбінацыйнасці ў атацы і з даволі відавочнымі правaламі ў абароне "Камунальніка-2". Таму канчатковы вынік 1:2 на карысць гродзенскай каманды цалкам справядлівы.

Пасля заканчэння матчу трэнер слонімцаў Руслан Корнеў назваў гэтую гульню самай дрэннай у сезоне, калі не лічыць матч у Дзятлава. Менавіта такой яна і была. Відаць двухтыднёвы перапынак слонімцам на карысць не пайшоў. А наступны матч адбудзецца таксама праз два тыдні. На гэты раз на выездзе ў Ваўкавыску.

**Валерый КАВАЛЕНКА**

## ТУРНІРНАЯ ТАБЛІЦА ПАСЛЯ 18-ГА ТУРА

| | | гульні | В | Н | П | ачкі | мячы |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Тарпеда | 17 | 13 | 2 | 2 | 41 | 31-9 |
| 2. | Дарыда | 16 | 11 | 3 | 2 | 36 | 29-11 |
| 3. | Зорка-ВА-БДУ | 17 | 10 | 4 | 3 | 34 | 34-14 |
| 4. | Хімік | 17 | 10 | 4 | 3 | 34 | 30-13 |
| 5. | Тарпеда-Кадзіна | 17 | 9 | 3 | 5 | 30 | 17-15 |
| 6. | Ліда | 17 | 7 | 5 | 5 | 26 | 22-17 |
| 7. | Орша | 16 | 8 | 1 | 7 | 25 | 25-24 |
| 8. | Керамік | 17 | 7 | 3 | 7 | 24 | 23-23 |
| 9. | Граніт | 16 | 7 | 2 | 7 | 23 | 29-18 |
| 10. | Свіслач | 17 | 5 | 3 | 9 | 18 | 23-35 |
| 11. | Камунальнік | 17 | 5 | 2 | 10 | 17 | 18-26 |
| 12. | ЗЛіН | 17 | 3 | 5 | 9 | 14 | 17-26 |
| 13. | Дынама-Юні | 17 | 3 | 4 | 10 | 13 | 13-27 |
| 14. | Нёман | 17 | 2 | 3 | 12 | 9 | 12-37 |
| 15. | Рагачоў-ДЮСШ-1 | 17 | 1 | 6 | 10 | 9 | 14-42 |



Фота Вольгі ШЫНКЕВІЧ

# анекдоты

Друг спрашивает:
- Почему ты не носишь обручальное кольцо?
- За глотку душит!

- Что дают?
- Хемингуэя.
- Это лучше кримплена?
- Не знаю, пить не пробовал.

Папа будит утром Вовочку:
- Вовочка, вставай.
- А я еще спать хочу.
- Кто рано встает, тому Бог подает.
- Неужели так бывает?
- Конечно, бывает: вот, например, Вася из соседней квартиры в пять часов утра выгуливал собаку и нашел 20 долларов.
- Но ведь тот, кто их потерял, встал еще раньше!

Глубокой ночью звонит телефон. Жена берет трубку:
- Дорогая, это я. Иду домой. Я не очень задержался?
- Нет, любимый.
- А можно я приведу 5-6 приятелей?
- Конечно, любимый.
- Мы немножко посидим, выпьем.
- Ну, разумеется.
Мужчина вдруг замолкает и потом говорит:
- Извините, я, наверное, ошибся номером...

- Доктор, я умру?
- А как же!

Человека с забинтованной головой привезли в больницу.
- Вы женаты? - спросила сестра, заполнявшая формуляр.
- Нет. Это дорожное происшествие.

Разговаривают двое:
- У тебя после отпуска очень округлилось лицо. Вас что, так хорошо кормили?
- Нет, просто мне ежедневно приходилось надувать по матрацу для жены и тёщи.

- Мне сказали, что если есть возможность выбирать место в самолете, надо брать совсем впереди. Это верно?
- Конечно!
- А почему?
- При падении тележка с выпивкой опять проедет мимо тебя!

Дети играют во дворе. Из окна голос:
- Миша, быстро домой.
- Ну, мам, можно еще чуть-чуть?
- Ну, ладно, еще по чуть-чуть и домой.

В супермаркете:
- Поздравляем! Вы сотый покупатель, который попытался украсть эту камеру наблюдения!

Мужик спрашивает у бармена:
- Что входит в коктейль?
- Сахар, молоко и ром.
- Ну, и как на вкус?
- Отлично! Сахар — это сила, молоко — энергия!
- Ну, а ром?
- А ром - это мысли, куда применить силу и энергию.



фотаконкурс • фотаконкурс • фотаконкурс • фотаконкурс • фотаконкурс

## «Пляж — райскі адпачынак»



Фота Вольгі ГРЫБ (Мастоўскі раён)

Райскі адпачынак на беразе Нёмана

# кроссворд

*составил Владимир Вашута*



**ПО ГОРИЗОНТАЛИ**

**5**. Пуля с зарядом и капсюлем, заключённые в гильзе.
**6**. Древнегреческий философ.
**9**. Единица измерения жидкостей и сыпучих веществ.
**11**. Роман Г.Сенкевича.
**12**. Род гостиницы, обычно в курортной местности.
**15**. Произведение изобразительного искусства с кратким текстом.
**18**. Загородная увеселительная прогулка компанией, обычно с закуской.
**19**. Выдача чужого произведения за своё.
**20**. Рыба семейства карповых.
**21**. Сухой тропический ветер.
**24**. Старинный польский торжественный танец.
**26**. Место в порту для стоянки судов.
**27**. Сельское кладбище.
**31**. Жгут из скрученной соломы для перевязки снопов.
**33**. Декабрист, друг А.С.Пушкина.
**34**. Воодушевление, подъём, энтузиазм.
**35**. Единица измерения звёздных расстояний.
**36**. Роман А.Чаковского.

**ПО ВЕРТИКАЛИ**

**1**. Молодые оленьи рога.
**2**. Декоративно оформленный главный вход здания.
**3**. Южное декоративное дерево.
**4**. Возвышение, широкая полка, на которой парятся в русской бане.
**7**. Старинная пушка, а позже тяжёлое ружьё.
**8**. Героический, самоотверженный поступок.
**10**. Узкий длинный чёлн, выдолбленный из ствола дерева.
**13**. Исследователь древних рукописей.
**14**. Комедия Б.Шоу.
**16**. Советский живописец, автор картин "Сенокос", "Жатва".
**17**. Невысокая ограда, перила вдоль чего-либо.
**22**. Отходы при обмолоте и очистке зерна.
**23**. Отдалённый предок, основатель рода.
**25**. Религиозное песнопение.
**28**. Созвездие северного полушария неба.
**29**. Потолок, украшенный живописью или лепкой.
**30**. Тип автомобиля.
**32**. Животное семейства енотовых.

# ГОРОСКОП от www.ignio.com НА НЕДЕЛЮ

**ОВЕН**

Хочется Вам пожелать больше уверенности в собственных силах. Работа будет спориться, а успехи в трудах будут производить впечатление даже на Вас. Творческая работа позволит раскрыть Ваши способности. В понедельник и вторник желательно не заниматься оформлением официальных бумаг и не стоит посещать официальные учреждения, ничего, кроме бесполезной суеты и пустых разговоров Вас там не ожидает. Осторожнее с всплесками эмоций, постарайтесь остерегаться резких перепадов настроения. Среду лучше посвятить отдыху на природе. В четверг будут удачными поездки, а в пятницу постарайтесь не создавать конфликтных ситуаций.

**ТЕЛЕЦ**

Главное для Вас — быть активным и последовательным в течение всей недели. Нежелательно легкомысленно раздавать обещания, т.к. некоторые из них будет выполнить весьма проблематично. Налаживайте новые связи и контакты. В понедельник и вторник желательно не попадаться на глаза начальству, а, начиная со среды, Вы можете смело выдвигать конструктивные предложения. Ваши реальные возможности могут проясниться только к концу недели. Вам будут удаваться дела, связанные с благоустройством дома. В субботу возможна финансовая помощь от родственников.

**БЛИЗНЕЦЫ**

Накопившиеся проблемы надо решать — отложить решение на более дальний срок Вам вряд ли удастся. Сконцентрируйтесь на главных делах, отдавая предпочтение логике перед чувственным восприятием мира. Удачна рекламная деятельность. Постарайтесь отстаивать свою точку зрения и не идти на поводу у других, пусть даже очень влиятельных людей. Если у Вас появилось желание освоить новую профессию, то желательно начать поиск в творческих областях. Единственное, чего нежелательно делать, это плохо думать о конкурентах, такие мысли могут отвлечь Вас от более важных дел.

**РАК**

Вам необходимо быть реалистом, взгляните на создавшуюся ситуацию и откорректируйте свои планы и решительные действия в соответствии с возможностями. Работа может потребовать полной самоотдачи. Коли сами себя положительно не оцените — на Вас никто не обратит внимания. Самое время объявить вслух о своих достоинствах и заслугах. В среду желательно не слишком увлекаться работой, т.к. возможен перерасход энергии. Пятница важна и удачна для начала новых дел, переезда. Старайтесь быть в приподнятом настроении, если не получится — хотя бы контролируйте свои эмоции.

**ЛЕВ**

Тем Львам, что празднуют свой день рождения на этой неделе, можно ожидать приятных сюрпризов, подарков и розыгрышей. В Ваших силах заинтересовать нужных людей своими идеями и получить помощь в личных делах. Если Вы не будете лениться, то есть возможность взлететь по карьерной лестнице вверх, однако необходимо при этом соблюдать определенную скромность. В понедельник можете рассчитывать на поддержку друзей. Во вторник Вас могут посетить интересные идеи и новая информация. В четверг возможны интересные предложения.

**ДЕВА**

Тщательно анализируйте происходящие события, опираясь на жизненный опыт и логику. Не идите на поводу чужого мнения. Постарайтесь воздержаться от открытой критики коллег по работе. Возможет карьерный рост и переход на новую должность. Постарайтесь избежать звездной болезни. Впереди вот-вот замаячит что-то новенькое, и оно сулит Вам настоящий успех и улучшение Вашего финансового положения. Ваши планы могут отличаться от планов окружающих, вероятны определенные расхождения.

**ВЕСЫ**

Вам необходимо обрести душевное равновесие, почувствовать уверенность в собственных силах и определить цели на ближайшее будущее. Не распыляйтесь, сосредоточьтесь на самом главном и важном, только тогда Вы обретете успех и признание окружающих. Следите за своей речью, особенно в присутствии малознакомых людей, т.к. неверно сказанное слово может иметь далеко идущие последствия. В четверг будут удачны поездки и путешествия. В пятницу упрямство может сыграть с Вами злую шутку.

**СКОРПИОН**

Появится возможность изменения условий работы в лучшую сторону, только вовремя проявите инициативу. Займитесь приобретением новых профессиональных умений. Вас ожидает успех в интеллектуальной сфере деятельности. Ближе ко второй половине недели соберитесь в дорогу: даже самая короткая, она обязательно порадует Вас каким-то приятным сюрпризом. В четверг возможны интересные деловые предложения. В пятницу желательно избегать конфликтов.

**СТРЕЛЕЦ**

Вы будете чрезвычайно охочи до работы, в то время как Вам необходимо слегка охладить Ваше рвение и реально рассчитать Ваши силы. Вы можете не сомневаться в надежности и искренности Ваших партнеров. Ориентируйтесь на них, и это принесет Вам желанный успех. Постарайтесь не опаздывать, быть пунктуальным и соблюдать взятые на себя обязательства. Благоприятная неделя для налаживания связей с зарубежными партнерами, обновления источников информации. В понедельник желательно не планировать нового. В пятницу вероятны интересные предложения. Воскресная командировка будет удачной.

**КОЗЕРОГ**

Постарайтесь запланировать дела на всю неделю, чтобы успеть справиться со всеми. В понедельник и вторник желательно избегать суеты. Для Вас будут привлекательными международные проекты. Постарайтесь быть во всем внимательным и практичным. Желательно не заключать рискованных сделок, шанс на успех практически равен нулю. В среду упорядочите свой образ жизни, не втягивайтесь в круговорот чужих проблем. В этот день удачны деловые поездки и просто путешествия. В четверг будьте осторожны при общении с коллегами по работе и начальством. В субботу возможны приятные новости.

**ВОДОЛЕЙ**

Ставка на уверенность и спокойное ожидание принесет Вам успех. Будьте мудры и предусмотрительны, постарайтесь не допускать в отношениях с партнерами проблем и конфликтных ситуаций. Выясните и обозначьте четкие цели и ясность мотивов с обеих сторон. Во вторник, по возможности, отложите важные дела, требующие финансовых гарантий. Лучше переждать денек-другой, и тогда успех Вам практически гарантирован. В четверг поездки и командировки будут удачны. В пятницу новых дел лучше не начинать.

**РЫБЫ**

Проявив мудрость и сдержанность, Вы успешно справитесь с разнообразными делами. Старайтесь избегать глобальных дел, менее крупные, но более реальные дела будут удачны. Не поддавайтесь эмоциям, чувства могут заставить Вас пойти на неоправданный риск. Во вторник лучше не позволять втянуть себя в конфликтную ситуацию — он и без того будет непростым днем. В четверг возможно подписание договоров и важные деловые предложения. Суббота — прекрасный день для прогулок на природе. Мелкий ремонт в доме принесет удовлетворение, а небольшие покупки будут выгодны.

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 25.06.2001г.

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР Віктар ВАЛАДАШЧУК
ЗАСНАВАЛЬНІК Віктар ВАЛАДАШЧУК

**Адрас рэдакцыі:**
231800, г.Слонім, вул. Камсамольская, 8.
**Тэлефоны:**
рэдакцыі ....................2-14-39
..........(017)210-87-17
аддзел рэкламы ..........2-49-39

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.
Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць. Рэдакцыя таксама не адказвае за змест рэкламы.

**Падпісана да друку**
15 жніўня 2001г.
Час падпісання 7:00.
**Надрукавана**
ў Гродзенскім абласным унітарным прадпрыемстве "Слонімская друкарня", г.Слонім, вул. Хлюпіна, 16.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

**Падпісныя індэксы:**
64042 (індывідуальная)
63818 (ведамасная)
63646 (льготная)
НАКЛАД 11.100 экз.
ЗАКАЗ № 2625
© «Газета Слонімская» Спасылка на «ГС» абавязковая
(К) Матэрыялы публікуюцца на правах рэкламы
Аб'ём — тры друкаваныя аркушы

E-MAIL: gs@irex.minsk.by HTTP://gs.promedia.minsk.by ПЭЙДЖЭР: 8-22-730000 аб. 95196

"Газета Слонімская" Комсомольская,8
Магазин "Юбилейный"
Комсомольская
К. Давыдюк
Я. Купалы